Пралятары ўсіх краін, злучайцеся!

# БЮЛЯТЭНЬ САВЕТУ НАРОДНЫХ КАМІСАРАЎ БЕЛАРУСКАЙ САЦЫЯЛІСТЫЧНАЙ САВЕЦКАЙ РЭСПУБЛІКІ

Выдаецца Інфармацыйна-Выдавецкім Аддзелам Кіраўніцтва Спраў СНК і Эканамічнай Нарады (г. Менск, Чырвонаармейская вул. № 3). — Падпісная плата на год 5 р. і на 1/2 г. 2 р. 50 к.

VI-ы ГОД ВЫДАНЬНЯ

№ 12 (86) | 5 чэрвеня 1930 г. | № 12 (86)

## ЗЬМЕСТ



## Абежнік Народнага Камісарыяту Юстыцыі і Народнага Камісарыяту Працы БССР.

### Паст. 114. Пра парадак накіроўваньня працоўных спраў у суд.

*Усім акруговым пракурорам, акруговым судам і інспэктарам працы.*

Для разьвіцьця інструкцыі НКЮ і НКУС БССР за 10 лютага 1930 г. „Пра парадак перадачы з органаў працы ў органы пракуратуры і сьледзтва вядзеньня дазнаньняў па працоўных справах“ (Бюл. СНК БССР 1930 г. № 3) і для спрашчэньня працэсу праходжаньня працоўных спраў, НКЮ і НКП БССР прапануюць прыняць да кіраваньня наступныя паказаньні:

1. Па крымінальных працоўных справах, па якіх могуць быць ужыты артыкулы 139-а, 140-а, 200-а і 201-а, вядзеньне дазнаньня не абавязкова.

інспэктары працы, складаючы адпаведныя акты аб тым ці іншым парушэньні працоўнага заканадаўства і лічачы, што сабраны імі матарыял дастатковы для прыцягненьня да крымінальнай адказнасьці парушніка Кодэксу аб Працы, павінны гэты матарыял паслаць непасрэдна ў адпаведны суд для слуханьня справы. Для гэтага акты або прадпісаньні аб парушэньні Кодэксу аб Працы павінны складацца інспэктарамі працы па магчымасьці падрабязна з паказаньнем прычын, выклікаўшых парушэньне.

2. Калі па пагляду інспэктара працы справа зьяўляецца складанай і патрабуючай расьсьледваньня, яна павінна быць накіравана ў адпаведным парадку для правядзеньня папярэдняга сьледства.

3. Справы аб прыцягненьні да крымінальнай адказнасьці за парушэньне Кодэксу аб Працы могуць узбуджацца і па ініцыятыве прафэсійных арганізацый. У такіх выпадках трэба, каб аб узбуджэньні крымінальнай справы мелася адпаведная абгрунтаваная пастанова кіраўніцтва саюзу або мясцовай прафячэйкі.

Калі апошнія, абмеркаваўшы пытаньне аб неабходнасьці ўзбудзіць крымінальнае прасьледваньне, вынесуць аб гэтым адпаведную пастанову, то справа з такой пастановай накіроўваецца ў суд для слуханьня (калі злачынства прадугледжана паказанымі вышэй артыкуламі КК).

4. Справа ў судзе павінна быць разгледжана ў 7-дзённы тэрмін з моманту атрыманьня матарыялаў аб прыцягненьні да адказнасьці.

5. Сьледзтва па працоўных крымінальных справах павінна быць праведзена ў 15-дзённы тэрмін з моманту паступленьня справы.

У выключных выпадках, з дазволу пракурора, тэрмін заканчэньня сьледзтва можа быць працягнуты да аднаго месяца.

6. Інструкцыя НКЮ і НКП БССР за 11 лютага 1926 г. „Пра ўзаемаадносіны акруговых пракурораў з мясцовымі органамі НК Працы"—касуецца.

Нам. Народнага Камісара Юстыцыі БССР і Ст.
Пам. Пракурора Рэспублікі *Міхайлаў.*

Народны Камісар Працы БССР *Д. Захарава.*

26 мая 1930 г.
№ 25

## Абежнік Народнага Камісарыяту Унутраных Спраў БССР.

**Паст. 115. Пра вызваленьне ад збораў за віды на пражываньне чужаземцаў, якія ўступілі ў калгасы.**

*Начальнікам адмаддзелаў АВК і Сакратарыяту Віцебскага АВК.*

Народны Камісарыят Унутраных Спраў БССР пастанаўляе да арт. 15 абежніка НКУС № 64 за 16/IX-1929 г. (Бюл. СНК БССР 1930 г. № 1) аб вызваленьні чужаземцаў ад збораў за віды на пражываньне, дадаць пункт „д" наступнага зьместу:

„д) уступіўшыя ў калектыўныя гаспадаркі.

Да асоб, якія заявілі аб прыналежнасьці да чужаземнага грамадзянства і пражываюць па відах на пражываньне па форме № 2, пункт „д" не павінен дапасоўвацца.

Нам. Народнага Камісара Унутраных
Спраў БССР *Я. Кроль.*

26 мая 1930 г.
№ 44.

## Загады па Вышэйшаму Савету Народнае Гаспадаркі БССР.

### Паст. 116. Пра перадачу органам НК Гандлю прадпрыемстваў маслабойнай прамысловасьці.

Паводле загаду ВСНГ СССР за 7/III-1930 г., № 972/458, надрукаванага ў газэце „За індустриализацию“ за 9/III-30 г., № 57, і загаду за 12/V-1930 г. № 1360 пра перадачу органам НК Гандлю маслабойнай прамысловасьці, прапаную Харчаб'яднаньню безадкладна перадаць НК Гандлю БССР усе свае прадпрыемствы маслабойнай вытворчасьці, прычым здачу ў натуры зрабіць, кіруючыся п. 5 загаду ВСНГ СССР за № 972/458.

Нам. Старшыні Вышэйшаге Савету Народнае
Гаспадаркі БССР *Стракоўскі.*

Кіраўнік Спраў ВСНГ БССР *Ізакаў.*

30 мая 1930 г.
№ 385.

### Паст. 117. Пра парадак зносін органаў ВСНГ БССР з вышэйшымі ўрадавымі ўстановамі БССР, СССР, а таксама ўрадавымі ўстановмі саюзных рэспублік.

На зьмену абвешчанага парадку зносін органаў ВСНГ БССР з вышэйшымі ўрадавымі ўстановамі—ЦВК, СНК, ЭН і Дяржплянам БССР, ЦВК, СНК і СПА СССР і Прэзыдыумам ВСНГ СССР, а таксама вышэйшымі ўрадавымі органамі інш. саюзных рэспублік (па прынцыповых пытаньнях) устаноўлены наступны парадак зносін з гэтымі органамі:

1. Перапіска, выходзячая з сэктараў ПТЭК і аддзелаў ВСНГ БССР, падпісваецца адпаведным выканаўцам і членам Прэзыдыуму ВСНГ, якому гэты сэктар ці аддзел падпарадкавны.

2. Перапіска, выходзячая з аб'яднаньняў, падпісваецца адпаведным адказным выканаўцам аб'яднаньня і членам прэзыдыуму, якому гэтае аб'яднаньне падпарадкавана.

3. Названая перапіска да падачы для подпісу члену прэзыдыуму павінна быць узгоднена адказным выканаўцам ці аб'яднаньнем з старшым адпаведнага сэктару ПТЭК, або з загадчыкам адпаведнага аддзелу ВСНГ БССР.

4. Прадпрыемствы, падпарадкаваныя аб'яднаньню ВСНГ БССР, павінны ўсю перапіску з вышэйпералічанымі ўстановамі вясьці выключна праз адпаведныя аб'яднаньні ў паказаным парадку.

Нам. Старшыні Вышэйшага Савету Народнай
Гаспадаркі БССР *Стракоўскі.*

Кіраўнік Спраў ВСНГ БССР *Ізакаў.*

30 мая 1930.
№ 386.

## Пастановы Народнага Камісарыяту Працы БССР.

### Паст. 118. Пра парадак вырашэньня працоўных спрэчак, што ўзьнікаюць пры ўжываньні наймовай працы ў раёнах і сельскіх мясцовасьцях.

Як выключэньне з агульнага парадку вырашэньня працоўных спрэчак, прадугледжанага „Правіламі пра міравы, пасрэдніцкі і судовы разгляд працоўных спрэчак“ (З. З. СССР 1928 г. № 56, арт. 495)

Народны Камісарыят Працы БССР, па згодзе з ЦСПСБ і НКЮ і НКУС БССР пастанаўляе:

I. Канфлікты, што ўзьнікаюць у прадпрыемствах, установах і гаспадарках якія знаходзяцца ў раёнах і сельскіх мясцовасьцях і ў якіх няма РКК, вырашаюцца ў канфліктных камісіях пры сельскіх саветах або раённых выканаўчых камітэтах, арганізуемых паводле пастановы ЦВК і СНК СССР за 4/IX-1929 г. „Пра парадак разгляду працоўных спрэчак у сялянскіх гаспадарках“ (З. З. СССР 1929 г., № 57, арт. 533) і пастановы ЦВК і СНК БССР за 15/V-1930 г. „Пра парадак разгляду працоўных спрэчак у сялянскіх гаспадарках“ (З. З. БССР 1930 г., №22, паст. 148.) прычым у склад канфліктнай камісіі ўякасьці прадстаўніка ад працоўнага ўваходзіць прадстаўнік адпаведнага прафэсійнага саюзу.

II. З выданьнем гэтай пастановы касуюцца:

1) пастанова НКП і НКУС БССР за 18/IV-1927 г. № 56 (Бюл. СНК 1927 г. № 12), 2) пастанова НКП, НКЮ і НКУС БССР за 13/VIII-1928 г. № 54 (Бюл. СНК 1928 г. № 10), 3) пастанова НКП БССР за 15/IV-1929 г. № 54 (Бюл. СНК 1929 г. № 4),

Народны Камісар Працы БССР *М. Гнілякевіч.*

Ст. Праўны Інспэктар НКП БССР *Х. Гольдзінберг.*

2 чэрвеня 1930 г.
№ 35.

**Паст. 119. Пра льготы для вучняў вячэрняга сэктару Камуністычнага Унівэрсытэту БССР імя Леніна.**

Народны Камісарыят Працы БССР пастанаўляе:

Пашырыць на вучняў вячэрняга сэктару Камуністычнага Унівэрсытэту БССР імя Леніна льготы, прадугледжаныя пастановай НК Працы СССР за 14 красавіка 1930 г. № 155 („Известия НКТ СССР“ 1930 г. № 13).

Нам. Народнага Камісара Працы БССР *Д. Захарава.*

Ст. Праўны Інспэктар НКП БССР *Х. Гольдзінберг.*

2 чэрвеня 1930 г.
№ 34.

**Паст. 120. Пра парадак ужываньня пастановы НКП СССР „Пра парадак контрактацыі вучняў ВНУ і тэхнікумаў“.**

На падставе распараджэньня НК Працы СССР за 4 мая 1930 г. № 557/он-11, Народны Камісарыят Працы БССР пастанаўляе:

1. З вучняў, якія з прычыны скарачэньня працяжнасьці навучаньня атрымалі стыпэндыю па контрактацыі ў павышаным разьмеры— розьніца не спаганяецца.

2. З выданьнем гэтай пастановы касуецца арт. 2 тлумачэньня НКП БССР за 25 сакавіка 1930 г.

Народны Камісар Працы БССР *М. Гнілякевіч.*

3 чэрвеня 1930 г.

Адказны Рэдактар **С. Лодысеў.**

Друкарня Беларускае Акадэміі Навук. Зак. № 3013. Галоўлітбел № 1572. Тыраж 5000 экз.